наша свабода

№23(250) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

27 ЛЮТАГА 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Заробкі міністраў

Як паведамляе *open.by* са спасылкай на намесніка міністра фінансаў Беларусі І.Заяша, базавая зарплата міністра ў нас складае 300-350 даляраў. Апрача таго, міністры ў нашай краіне атрымліваюць надбаўку ў памеры 80% "за работу ў шкодных умовах" і надбаўку "за класнасць дзяржслужбоўца", максімальны памер якой зараз роўны 127 тысячам рублёў.

## Не прыжыўся ў амбасадарах

Як мы і прадказвалі, амбасадар Беларусі ў Румыніі Рыгор Кісель вярнуўся да тэлевізійна-ідэалагічнай працы. Учора Аляксандр Лукашэнка прызначыў яго старшынём праўлення закрытага акцыянернага таварыства "Другі нацыянальны тэлеканал". Нагадаем, што з 1994 па 2000 гады Р.Кісель кіраваў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй. Як адзначалі былыя супрацоўнік БТ, "за Кісялём" нацыянальнае тэлебачанне фактычна скапала. Цяпер на чарзе – БТ-2?

## Гастролі падаражэюць

Павялічыліся стаўкі арэнднай платы за правядзенне гастроляў у дзяржаўных палацах і спарткомплексах. Калі раней адно пасадачнае месца ў Купалаўскім тэатры каштавала 18 цэнтаў, то цяпер будзе 1,5 даляра, у Палацы спорту адпаведна 20 цэнтаў і 2 даляры, у канцэртнай зале «Мінск» – 1,05 і 2,9 даляра. Самы дарагі – Палац Рэспублікі (3,5 даляра).

## Эпідэміі грыпу засталося паўмесяца

Эпідэмічны грыпавы парог па ўсёй Беларусі зараз перавышаны ў 4,4 раза. У дзвюх з паловай сотнях сярэдніх школ нашай краіны абвешчаны каранцін і прыпыненыя заняткі. Эпідэмія пачне спадаць прыкладна праз паўмесяца.

## Чэргі ў аэрапорце Солт-Лэйк-Сіці

Не так проста было пакінуць наступным пасля закрыцця Алімпіяды днём Солт-Лэйк-Сіці. Людзі, што хацелі вярнуцца дадому, утваралі чатырохгадзінныя чэргі. Затрымкі ў пропуску пасажырапатоку былі выкліканыя тым, што ў аэрапорце зламаліся металашукальнікі, і дагляд багажу, пакуль іх не парамантавалі, давялося рабіць уручную.

# Алімпійцаў сустрэлі авацыямі




*Рэха Алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк-Сіці адгукнулася ў панядзелак у Нацыянальным аэрапорце «Мінск» масавай сустрэчай беларускіх хакеістаў, якія прыляцелі на радзіму.*

Што праўда, праз адсутнасць абвестак сустрэча атрымалася малалюднай. Прыйшлі толькі афіцыйныя асобы ад улады: міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Канаплёў, намеснік кіраўніка МУС Леанід Глухоўскі ды сваякі некаторых хакеістаў.

Самалёт спазніўся на сорак хвілін, таму ў зале адчувалася хваляванне. Калі ж нарэшце нашы героі ўвайшлі ў залю аэрапорту, пачаў граць аркестр МУС, пачуліся воплескі і крыкі «Беларусь-Беларусь!!!» Адразу ў аэрапорце пачаўся афіцыйны фуршэт. Тосты прамаўлялі па чарзе. Канаплёў абмовіўся, сказаўшы, што «добра было б, калі б і далей мы гэтак змагаліся за нашу Расію». Пілі шампанскае, шмат. Настрой быў прыўзняты.

Тым часам у Солт-Лэйк-Сіці прайшла ўрачыстая цырымонія закрыцця гульняў і алімпійскі хакейны фінал, у якім канадцы перамаглі амерыканцаў – 5:2. Прайшла лыжная жаночая гонка на трыццаць кіламетраў, у якой расіянка Ларыса Лазуціна паспела выйграць золата і страціць яго праз допінг. Дыскваліфікавалі іспанскага алімпійскага чэмпіёна Йохана Мюлега, але ўсе ўжо настолькі стаміліся ад «разборак», што амаль не адрэагавалі на фінальны скандал Алімпіяды.

Учора з Амерыкі вярнулася апошняя група беларускіх спартсменаў і трэнераў. Цяпер на працяг некалькіх месяцаў нас чакае "разбор палётаў". Па выніках яго ў нас можа змяніцца спартыўнае кіраўніцтва.

**Аляксей СТАЎСКІ**

## «Групу Ігнатовіча» асудзяць у сакавіку

25 лютага ў залю Вярхоўнага суду Беларусі, дзе пад старшынствам суддзі Мінскага абласнога суду Аляксандра Сіманава праходзіць працэс па справе групы былога афіцэра спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча, на насілках быў дастаўлены Ігнатовіч. Суд даў яму магчымасць выступіць з апошнім словам. Аднак Ігнатовіч, як і раней, у гэты дзень у судзе не сказаў анічога.

Сёння ж прагучала апошняе слова падсуднага Сяргея Савушкіна. Ён абвінавачваецца ў разбоі і прычыненні да забойства азербайджанскай сям'і 22 сакавіка 2000 году ў Мінску. Сваёй віны Савушкін не прызнаў, заявіўшы, што следства вялося неаб'ектыўна і прадузята. Былы супрацоўнік спецпадраздзялення «Алмаз» Максім Малік і былы курсант Акадэміі МУС Аляксей Гуз выступілі з апошнім словам раней – 14 лютага. Яны таксама не прызналі сваёй віны.

Нагадаем, што дзяржаўны абвінаваўца ў сваім выступленні прасіў суд прысудзіць усіх чатырох абвінавачаных да расстрэлу. Яны абвінавачваюцца ў шэрагу забойстваў, вымаганні, рабунках, выкраданні людзей, у тым ліку Ігнатовіч і Малік – у выкраданні аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага. Абарона лічыць іх віну не даказанай.

Прысуд будзе абвешчаны прыкладна праз два тыдні, магчыма, 11 сакавіка.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН**

## Беларускі скакун пад наглядам ФБР

Федэральнае бюро расследаванняў ЗША знайшло на тэрыторыі Злучаных Штатаў беларускага скакуна з трампліна Андрэя Лыскаўца. Пра гэта паведаміў БелаПАНу 24 лютага праз тэлефон з Солт-Лэйк-Сіці генеральны сакратар Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі, шэф беларускай місіі на зімовых Алімпійскіх гульнях Анатоль Іваноў. «Сёння прадстаўнік ФБР паведаміў мне, што Лыскавец знойдзены, аднак не ўдакладніў, дзе менавіта. Па нашых меркаваннях, гэта можа быць штат Каліфорнія, – сказаў шэф місіі. – З ім праведзена гутарка. Спартсмен заявіў, што застаецца ў ЗША на пару месяцаў, каб падзарабіць».

*Заканчэнне на стар.3*

# Стаўкі на выхад працягваюцца

Уладныя колы ўсё часцей загаворваюць пра выхад Беларусі са складу Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ). Такім чынам, беларускія ўлады даюць зразумець міжнароднай супольнасці, што не жадаюць выслухоўваць натацыяў наконт правоў чалавека ў краіне.

Гэтым разам пра магчымы выхад са складу АБСЕ заявіў кіраўнік сталай камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савету рэспублікі Мікалай Чаргінец. У інтэрв'ю агенцтву «Інтэрфакс» ён учора паведаміў, што, на ягоную думку, такое развіццё падзей цалкам магчымае.

Як вядома, АБСЕ – адна з нешматлікіх еўрапейскіх структураў, якая яшчэ церпіць Беларусь у сваім складзе. У яе ўваходзяць 55 дзяржаваў, якія прадстаўляюць не толькі Еўропу, але і Цэнтральную Азію, і Паўночную Амерыку. АБСЕ – найбуйнейшая арганізацыя, якая падтрымлівае бяспеку, мір і стабільнасць у еўрапейскім рэгіёне. Яе дзейнасць скіраваная на ранняе прадухіленне магчымых канфліктаў як паміж сваімі дзяржавамі-сябрамі, так і ўнутры адной краіны. Для аператыўнага адсочвання патэнцыйна небяспечнай сітуацыі АБСЕ можа ствараць кансультацыйна-назіральныя групы на месцы – так узнікла КНГ АБСЕ ў Мінску.

Ад Беларусі АБСЕ няўхільна патрабуе захавання правоў чалавека. Усе гэтыя патрабаванні ўкладваюцца ў вядомыя «чатыры пункты»: змяненне Выбарчага кодэксу ў бок большай дэмакратычнасці, пашырэнне ўладных паўнамоцтваў парламенту, стварэнне палітычнага клімату даверу ў краіне (маецца на ўвазе адмова ад палітычных рэпрэсіяў) і допуск апазіцыі да электронных СМІ (якія ўсе належаць дзяржаве).

За гэтыя патрабаванні Арганізацыю



па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе вельмі не любіць беларуская ўлада, а новы кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ўжо амаль два месяцы не можа прыступіць да працы.

Але вернемся да Мікалая Чаргінца. Учора ён заявіў «Інтэрфаксу», што, маўляў, «надакучыла слухаць дылетанцкія патрабаванні з падачы трохчатырох прадстаўнікоў апазіцыі».

«У нас таксама ёсць гонар і разуменне, што мы не можам заўсёды ставіць краіну ў позу просьбіта».

*Заканчэнне на стар.3*




**Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478**

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1680**

ВЕСТКІ



## Песня пра Полацк

Полацкія ўлады абвясцілі конкурс на лепшую песню пра гэты старажытны беларускі горад, якому сёлета спаўняецца 1140 гадоў. Якраз на ўрачыстасцях з гэтай нагоды і мусіць прагучаць песня пра Полацк, якая хутчэй за ўсё набудзе статус гімну гораду. Раней Полацк займеў Дзень гораду, які будзе святкавацца тут у апошнюю суботу траўня.

## Хабарнікі з Усходніх могілак

Пракуратура Ленінскага раёну Мінску пачала разбор па фактах хабарніцтва ў адміністрацыі Усходніх могілак. Тутэйшых супрацоўнікаў абвінавачваюць у атрыманні хабару за прадастаўленне так званых элітных пахавальных месцаў. Загадчыка могілак арыштавалі тады, калі ён браў хабар 300 даляраў, а вось даглядчык з'явіўся ў органы з павіннай сам.

## Намалюй Гюго – і ты ў Парыжы

Пасольства Францыі ў Беларусі і Беларускі саюз мастакоў з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Віктора Гюго абвясцілі аб правядзенні ў нашай краіне конкурсу малюнка на тэму «З любоўю да Францыі». Браць удзел у ім могуць дзеці ва ўзросце ад 7 да 18 гадоў. Пераможца конкурсу паедзе ў Францыю.

## Саюз кампазітараў просіць дапамогі

Выступаючы 25 лютага на з'ездзе кампазітараў, старшыня Беларускага саюзу кампазітараў Ігар Лучанок звярнуўся да ўраду з просьбай не скасоўваць у 2002 годзе дзяржаўнага фінансавання саюзу. Паводле Лучанка, спыненне дзяржфінансавання Саюзу кампазітараў пры канцы мінулага году і так паставіла пад пагрозу існаванне гэтай творчай арганізацыі. Гаварылася і пра неабходнасць стварэння ў нашай краіне дзяржаўнага музычнага выдавецтва і дзяржаўнай студыі грамзапісу.

## Армія наркаманаў павялічваецца

Як паведаміў галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі Уладзімір Максімчук, на 1 лютага ў нашай краіне зарэгістраваныя 8 423 наркаманы. Гэта на 15% нарказалежных больш, чым было летась. Але і гэта толькі тыя, каго паставілі на ўлік. Усяго, па прызнанні Максімчука, у нас 43 тысячы наркаманаў. Больш за ўсё іх у Мінску і на Гомельшчыне.

## Пенсіянеры вырошчваюць мак

Пенсіянеры ў Гродзенскай вобласці ўсё часцей становяцца наркадылерамі. Як падае радыё «Рацыя», летась некалькі дзесяткаў пажылых людзей былі прыцягнутыя да адказнасці перад законам за вырошчванне маку, а шасцёра трапілі на паўгода за краты. Супрацоўнікі міліцыі выявілі 15 гектараў плантацый маку.

# Дзень Волі'2002

У панядзелак на паседжанні аргкамітэту па святкаванні «Дня Волі'2002» прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх рухаў вызначылі фармат і месца правядзення акцыі. Святкаванне распачнецца 24 сакавіка ўскладаннем кветак да помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу. 25 сакавіка запланаваны ўрачысты сход у Палацы мастацтва.

Аргкамітэт, які ачольвае вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч, вырашыў правесці 10 сакавіка ў Мінску ўрачысты сход, дзе будзе выбраны гімн, які «дэмакратычная грамадскасць бачыць гімнам незалежнай Беларусі». Прыняты сходам варыянт будзе прадстаўлены на разгляд дзяржаўнай конкурснай камісіі. Аднак паколькі ніхто з членаў аргкамітэту не мае ілюзій наконт аб'ектыўнасці конкурсу, выбраны на ўрачыстым сходзе варыянт «стане дзяржаўным гімнам Беларусі пасля змены ўлады».

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

Відавочна, што прынятыя аргкамітэтам па святкаванні «Дня Волі'2002» саламонавы рашэнні адлюстроўваюць глыбіню крызісу, які перажывае грамадскасць пасля недарэчных фронтаўскіх і партыйных дзеянняў падчас леташняй выбарчай кампаніі. Набыты шырокімі масамі ў тыя месяцы недавер да апазіцыйных функцыянераў не дазваляе цяпер на цвярозую галаву спадзявацца на шматлюдную акцыю ў Дзень Волі. Шмат людзей адзначаць свята і не становячыся ў калону, бо не хочуць, каб ад іх імя блефавалі выпадковыя ў апазіцыйным лагеры асобы. Таму прыняты варыянт сціплага рытуалу ўскладання бел-чырвона-белых кветак (тры ружы ці гваздзікі) да помнікаў народным песнярам. Забараніць ушанаванне іх памяці нават сённяшняя ўлада не можа, як не будзе і забараняць прамовы на ўрачыстым сходзе ў залі на 200 месцаў. Цікава, аднак, хто ж абярэ гэтых 200 шчасліўцаў? Ці зноў на сход прыйдуць функцыянеры рознага рангу і паважаныя госці?

На жаль, прынятае рашэнне не асвятляе механізму, праз які 10 сакавіка прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці збяруцца на сход, каб ухваліць свой варыянт гімну для ўдзелу ў конкурсе, абвешчаным цяперашняй уладай. І хто будзе іх дэлегаваць на ўрачысты сход, каб рашэнне набыло легітымнасць, а не адлюстроўвала асабісты музычны густ? Паколькі сярод дэмакратычнай грамадскасці не існуе аднадумства адносна выбару гімну, і, прыкладам, «Пагоня» ці «Магутны Божа» маюць не менш абыякавых чым прыхільнікаў, дык як гэта можна вырашыць штучным рашэннем купкі людзей? Зноў будзе страта даверу, і нашто яе ўзмацняць?

# «Рок-карону» – на Сушу



Рок-кароль Алесь Суша прымае вялікую карону

Сёлета галоўны прыз штогадовай цырымоніі ўзнагароджання вядучых рок-музыкантаў Беларусі «Рок-каранацыя» – крыштальная «Рок-карона» – упершыню прысуджана не выканаўцам, а праекту. Вынікі «Рок-каранацыі» сталі вядомыя 24 лютага на ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання ў канцэртнай залі «Мінск».

Уладальнікам «Рок-кароны» стаў Алесь Суша – прадзюсер праектаў «Святы вечар», «Я нарадзіўся тут». Дзмітрый Вайцюшкевіч (Тодар) атрымаў перамогу ў намінацыях «Музыкант году» і «Традыцыі і сучаснасць»; апошняя – за альбом «Цацачная крама». Паэт Леанід Дранько-Майсюк, які выступіў аўтарам вершаў у «Цацачнай краме», быў названы пераможцам у намінацыі «Тэкст году». Вызначаныя і пераможцы ў намінацыях «Лепшы альбом году» – альбом «Хавайся ў бульбу» (група «Крама»), «Кліп году» – «На турэцкіх палях» («Палац»), «Адкрыццё году» – група «Імпэт», «Рок-князёўна» – салістка «Імпэту» Дана; «Песня году» – «Мая краіна Беларусь» (група «Без білета»).

У канцэрце ўзялі ўдзел групы «Сплінецік», «Рублёвая зона», «Сузор'е», «Лепрыконсы», выканаўцы Валік Грышко, Аляксандр Памідораў і іншыя. У фінале на сцэне са сваёй камандай з'явіўся і лідэр групы «Нейра Дзюбель» Аляксандр Кулінковіч, які раней заяўляў, што не будзе браць удзел у цырымоніі, паколькі «бессэнсоўна рабіць рок-каранацыю ў краіне, дзе няма рок-музыкі». Кулінковіч падкрэсліў, што група прыйшла не на саму цырымонію, а з мэтай прадставіць новы праект Алеся Сушы, у якім яны спяваюць загалоўную песню. Паводле словаў лідэра «Нейра Дзюбеля», праца над праектам на вершы Уладзіміра Караткевіча цяпер ідзе поўным ходам.

**Маша ПЯТРОВА**

# Які хочаш – выбірай

Больш за сто прапаноў тэксту і музыкі новага Дзяржаўнага гімну Рэспублікі Беларусь паступіла ў Міністэрства культуры.

Як паведаміла БелаПАНу галоўны спецыяліст упраўлення мастацтва Мінкультуры Таццяна Пархамовіч, закрыты конкурс праводзіцца для таго, каб выключыць прадузятасць пры выбары лепшага варыянту новага гімну. Гэта азначае, што звесткі аўтараў пры сябе павінны знаходзіцца ў асобным закленым канверце, на якім нагадваецца дэвіз паэта ці кампазітара. Між тым, паводле словаў спецыяліста, многія аўтары разам з прапановамі тэксту і музыкі адкрыта пішуць пра сябе. «Нягледзячы на гэта, усе прапановы паэтаў і кампазітараў будуць разгледжаны», – сказала Пархамовіч.

З яе словаў, многія аўтары выступаюць за захаванне музыкі Дзяржаўнага гімну БССР, напісанай Нестарам Сакалоўскім у 1955 годзе, а таксама прапаноўваюць або зрабіць новую рэдакцыю тэксту, напісанага Міхасём Клімковічам, або свой варыянт слоў гімну.

Сярод іншых прапаноў Пархамовіч назвала «Магутны Божа» (словы Наталлі Арсенневай, музыка Міколы Равенскага), «Радзіма мая дарагая» (словы Алеся Бачылы, музыка Уладзіміра Алоўнікава), паланез «Развітанне з Радзімай» Міхала Клеафаса Агінскага. Ёсць і цалкам невядомыя раней варыянты слоў і мелодый новага гімну. «Іх дасылаюць з розных рэгіёнаў краіны», – заўважыла Пархамовіч.

**Марат ГАРАВЫ**

# Спартовая прышчэпка патрыятызму



Фота Ул. Шлапака

Першы бакал нашых хакеістаў на Радзіме

Увечары суперпаліндромнага дня 20 лютага 2002 году (20.02.2002) шмат дзе ў свеце, а асабліва ў скандынаўскай краіне Швецыі і ў сярэдзіне Еўропы – Беларусі, у многіх парабіліся вялікія вочы і параскрываліся раты.

Але калі шведам заставалася адно што маўчаць ледзьве не ў нацыянальнай жалобе, то беларусы даўно ўжо гэтак не весяліліся. Цікава, на колькі дэцыбелаў пацягнулі б складзеныя ў адно «малайцы!», «клас!», «супер!» ды процьма іншых выклічнікаў? Колькі нашых суайчыннікаў асіплі разам з каментатарам Уладзімірам Навіцкім, адлічваючы астатнія секунды хакейнага матчу Беларусь–Швецыя? А прыгадайце, калі апошнім разам беларусы спантанна выходзілі на вуліцы абдымацца і віншавацца з мінакамі?

Тое, што зрабілі ў гэты дзеньпаліндром беларуская хакеісты, вартае золата. Гэта не проста ўліванне мільёнам беларусаў дозы добрых пачуццяў і жыццярадаснасці пасярод шэрых будняў, гэта нешта большае і глабальнае. Хлопцы, што ганяюць кавалак каучуку, здолелі зрабіць тое, што не могуць зрабіць ані пісьменнікі, ані спевакі шлягераў, ані палітыкі розных капылу, ані ідэолагі: яны з'ядналі нацыю, хай і на кароткі час. Незалежна ад веку, прафесіі, полу, палітычных поглядаў. Перамозе «нашых» радаваліся дзеці і, як дзеці, здаровыя дзядзькі, зацятыя прыхільнікі Лукашэнкі і апалагеты Пазьняка, міліцыянты і хатнія гаспадыні, аматары операў Вердзі і «Ляпіса Трубяцкога». Паболей бы такіх хвілінаў гонару за нацыю, хай гэта і здарылася на побытавым узроўні – у спорце, а не на высакародным, як, скажам, атрыманне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Беларусы згулялі за «бронзу» з расейцамі, і праз гэта нашыя людзі яшчэ адзін раз зразумелі, што яны – беларусы, і адчулі, што гэта можа гучаць надзвычай годна. Мала хто захоча пайсці ў падсуседзі да Расіі: а як неўзабаве на Алімпійскія гульні беларусы не паедуць асобнай камандай і больш ніколі не будзе такіх матчаў, як Беларусь–Швецыя? Факт ёсць фактам: праз спорт, які называюць рэлігіяй XXI стагоддзя, патрыятызм прышчапляецца куды больш эфектыўна і дасціпна, чым дарэчы і недарэчы «не пакідайце мовы нашай...»

Хакейная сенсацыя, якую зладзілі Мезін, Копаць і кампанія, – гэта яшчэ і доказ таго, што ў беларускім жыцці ёсць месца для подзвігу, што можна ўзняцца з любога застою, можна скокнуць вышэй галавы. А калі б за Беларусь, уявім сабе, гулялі б Сяргей Фёдараў, выхаванец школы «Юнацтва», і легенда сусветнага хакею з беларускімі каранямі Уэйн Грэцкі? На Алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сіці былі і іншыя героі з Беларусі. Удзел у спаборніцтвах з пераломам ключыцы лыжнага акрабата Зміцера Дашчынскага – таксама ўчынак.

Гэта хай у чыноўнікаў ад спорту баліць галава, што Беларусь не выканала на гэтай Алімпіядзе медальны план. Для большасці беларусаў яна запомнілася і вымерылася не кругляшамі з каштоўных металаў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Эксперымент справядлівасці

11 сакавіка ў Асіповіцкім раёне Магілёўскай вобласці распачнецца рэалізацыя пробнага праекту Міністэрства працы і сацыяльнай абароны па аказанні адраснай сацыяльнай дапамогі насельніцтву. Пра гэта 25 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміла начальніца аддзелу развіцця і каардынацыі сацыяльнай дапамогі і сацыяльнага абслугоўвання ўпраўлення сацыяльнай дапамогі і сацыяльнага абслугоўвання Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі Надзея Басюк.

Падчас пробнага праекту будзе адменены цяпер існы – так званы «катэгарыяльны» – падыход да выдзялення адраснай сацыяльнай дапамогі. Паводле слоў Басюк, права на гэтую дапамогу будуць мець тыя грамадзяне, даход якіх не перавышае 60% ад бюджэту пражыткова мінімуму. На сённяшні дзень бюджэт пражыткова мінімуму на душу насельніцтва складае 62 тысячы 568 рублёў. Такім чынам, каб мець права на атрыманне дапамогі, неабходна на сённяшні дзень атрымліваць даход менш за 37 541 рубель. Права на атрыманне дапамогі будуць мець таксама і працаздольныя сем'і, якія выхоўваюць аднаго і больш дзяцей.

Акрамя таго, адзначыла спецыяліст Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у міністэрстве распрацоўваецца інструкцыя аб умовах і парадку выдзялення адраснай сацыяльнай дапамогі пры правядзенні праекту, дзе будзе ўлічвацца таксама працоўны патэнцыял сям'і і стан здароўя кожнага члена сям'і. Такі падыход, паводле яе слоў, дазволіць больш справядліва вызначаць тых, хто мае патрэбу ў дапамозе. Надзея Басюк падкрэсліла, што дзеючая сістэма адраснай сацыяльнай дапамогі недасканалая, паколькі яе атрымліваюць толькі 30% людзей, якія сапраўды маюць патрэбу.

**Вольга АСІПЕНКА**

# Да пустой галавы руку не прыкладаюць

*На пашыраным паседжанні Савету міністраў Генадзь Навіцкі звярнуў увагу на тое, што перавышэнне тэмпаў росту заробкаў над тэмпамі росту вытворчасці стварыла «рызыкоўнае павелічэнне грашовай масы на канец году». Гэтая выснова паставіла пад сумнеў меркаванне Лукашэнкі пра тое, што галоўным эканамічным дасягненнем мінулага году стаў якраз рост заробкаў.*

Такое разыходжанне ў ацэнках цалкам зразумелае, бо заробкі падвышалі, каб павялічыць электаральны капітал Лукашэнкі для ўдзелу ў выбарах, а час дбаць пра эканоміку надышоў толькі цяпер. Да таго ж Лукашэнка кіруе ўсім, а Навіцкі, што характэрна для беларускае ўладнае сістэмы, толькі нясе за ўсё гэта адказнасць. Дый што ён можа зрабіць, калі ў эканоміку ўкінуты грошы (уласна кажучы, пустыя), якія не забяспечаны адпаведным прыростам таварнай масы ды пашырэннем паслуг для насельніцтва. Вось і стварыўся так званы «інфляцыйны казырок», які правакуе перавагу попыту над прапановай, што вядзе да павышэння цэнаў. Да таго ж павышаныя па ўказцы зверху заробкі не палепшылі фінансавага стану прадпрыемстваў, якія насамрэч не маюць грошай, каб своечасова і ў поўным памеры іх выплачваць.

Праблема несвоечасовай выплаты заробкаў увогуле не новая, звычайная, асабліва для калгаснікаў. Але раз-пораз яна набывае пагрозлівую вастрыню. Прыкладам, у навагоднюю ноч шэраговы беларус можа спакойна абысціся без шампанскага і ананасаў, але ж без пляшкі гарэлкі ці чарніла і нейкай там закусі – катэгарычна не. І што ён у такім разе будзе думаць, слухаючы ўзнёслыя словы навагодняга віншавання ад чалавека, абранага ім на пост галоўнай асобы дзяржавы, і гледзячы на яго дагледжаны, можна нават сказаць, сыты твар. Мо тэлевізар паб'е, мо жонку, мо калгасны свіран спаліць?..

Карацей, як распавёў сп. Навіцкі, у снежні ўрад двойчы спецыяльна разглядаў праблему пагашэння запазычанасці па зарплаце, у выніку чаго ее напярэдадні Новага году ўдалося амаль зліквідаваць: на 30 лістапада запазычанасць складала 11,8 працэнта месячнага фонду аплаты па народнай гаспадарцы, а на 31 снежня – усяго 0,8 працэнта. Але, на думку прэм'ера, магчымасці адміністрацыйнага вырашэння праблемы сябе вычарпалі. Бо прычыны яе ляжаць значна глыбей, іх трэба вырашаць у плоскасці падвышэння эфектыўнасці эканомікі, а не зводзіць усё да дысцыплінаванасці кіраўнікоў.

У Лукашэнкі, звыклага да вельмі простых рашэнняў, усе гэтыя развагі выклікалі жорсткі супраціў: «Мне кажуць, што ў снежні ў пытаннях інфляцыі з'явіўся так званы «казырок». Бачыце, гэты казырок трэба зняць, і мы шчасліва будзем жыць у новым годзе. Майце на ўвазе, спадары сябры ўраду, я магу зняць у вас не толькі казырок, а нешта іншае...»

Пасля такіх словаў застаецца прыкласці руку да галаўнога ўбору, памятаючы, што да пустой галавы яе не прыкладаюць. На жаль, пакуль нешта не атрымоўваецца. Бо ў студзені запазычанасць па заробках склала 33 мільярды рублёў і павялічылася адносна студзеня амаль у 10 разоў. Да таго ж быў зафіксаваны самы высокі за апошнія 16 месяцаў рост спажывецкіх цэн – 6,1 працэнта. Больш высокі паказчык (6,8 працэнта) апошні раз фіксаваўся толькі ў верасні 2000 году. З улікам таго, што ў бягучым годзе па планах ураду ўзровень інфляцыі павінен абмежавацца 20-27 працэнтамі, можна сказаць, што квартальнае заданне «па псаванні грошай» ужо выканана.

Першы тыдзень лютага, за які спажывецкія цэны падскочылі на 1,6 працэнта, сведчыць, што рацыю мае менавіта сп. Навіцкі, а Лукашэнка, як заўсёды, у простых эканамічных пытаннях памыляецца.

Што да «спажывецкага кошыка», то ў студзені з прадуктаў вышэй, чым у сярэднім, даражэлі не толькі тыя, якія можна аднесці да прадуктаў раскошы, кшталту мяса і мясных вырабаў (цэны на іх падскочылі больш як на 8 працэнтаў), але і малако, і малочныя прадукты (плюс 11,4 працэнта), масла і тлушчы (плюс 12 працэнтаў). Цэны больш чым у сярэднім падскочылі і на прадукт, які стаў у гады прэзідэнцтва Лукашэнкі проста сакральным – курыныя яйкі.

Словам, усё як звычайна. Новае тысячагоддзе пачалося ў Беларусі гэтаксама, як скончылася старое. Таму парадуемся, што мы пры такіх тэмпах будзем жыць блага, але нядоўга.

**Кастусь СКУРАТОВІЧ**

## Гарнякі супраць адміністрацыі «Беларуськалію»



19 лютага Рада Беларускага незалежнага прафсаюзу гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў дала старт перамовам паміж рабочымі ВА «Беларуськалій» і адміністрацыяй прадпрыемства. Рада БНП прызначыла на пачатак красавіка канферэнцыю працоўнага калектыву «Беларуськалію», на якой і будзе выпрацаваны пакет патрабаванняў да адміністрацыі аб'яднання. Да такога кроку прафсаюз падштурхнула сама адміністрацыя «Беларуськалію», у аднабаковым парадку прыпыніўшы дзеянне шэрагу пунктаў калектыўнай дамовы.

Нягледзячы на тое, што канферэнцыя працоўнага калектыву чакаецца толькі ў прамежку часу з 6 да 10 красавіка, асноўныя патрабаванні да «Беларуськалію» ўжо сфармуляваныя. «Ужо прайшлі перамовы з адміністрацыяй, якія ні да чога не прывялі. Мы рыхтуемся да канферэнцыі працоўнага калектыву з фармаваннем пакету патрабаванняў да адміністрацыі «Беларуськалію» ў сувязі з аднабаковым прыпыненнем дзеяння шэрагу пунктаў калектыўнай дамовы. Галоўнае патрабаванне – гэта выкананне калектыўнай дамовы ў частцы безнаяўнага пералічэння прафсаюзных узносаў», – сказаў старшыня БНП Віктар Бабаед. Як ён мяркуе, «да працоўнай калектыўнай спрэчкі справа не дойдзе – праблема вырашыцца на ўзроўні пагадняльнай камісіі або працоўнага арбітражу».

Старшыня прафкаму БНП «Беларуськалій» Мікалай Новік лічыць бесперспектыўным распачынаць калектыўную працоўную спрэчку. Паводле заканадаўства, сама працэдура можа зацягнуцца месяцаў на восем, і ўрэшце ўсе намаганні могуць пайсці кату пад хвост. А таму, лічыць М.Новік, не варта марнаваць час, а трэба «шукаць кампрамісныя рашэнні».

**Рыгор БУЯН**

# Роды ў Беларусі

*З трох жанчынаў, што дазналіся аб сваёй цяжарнасці, толькі адна вырашае яе захаваць. Астатнія ідуць на аборт. У такім дэмаграфічным становішчы кожнае немаўля і цяжарная жанчына заважвае як золата. І натуральна, сваякам і дзяржаве яны патрэбныя здаровымі.*



Аднак у рэчаіснасці ўсё інакш. 85% цяжарных жанчынаў маюць нейкія праблемы са здароўем. Міёма маткі, эрозія шыйкі маткі, эндаметрыёз ці запаленне яечнікаў – гэта самыя «папулярныя» жаночыя захворванні. Толькі 20% родаў у нашай краіне праходзяць нармальна, без ускладненняў. Кожнай пятай жанчыне даводзіцца рабіць кесарава сячэнне. З 100 немаўлятак толькі 3 нараджаюцца абсалютна здаровымі. І пры гэтым медыкі бяруць на сябе адказнасць толькі за 15% чалавечага здароўя, астатнія 85% – маўляў, гэта справа рук самога чалавека.

Аднак, як яго, гэтае здароўе, захаваць – невядома. Бо ў Беларусі не выдаюцца кнігі, якія маглі бы распавесці жанчыне аб тым, як яна мусіць сябе паводзіць падчас цяжарнасці, а ўрач-гінеколаг за адведзены для прыёму час можа адно што паспець пракантраляваць тымчасовы стан ейнага здароўя. На размовы пра іншае і важнае ўжо не застаецца часу і за дзвярыма яшчэ доўгая чарга наведвальніц.

Выходзіць, што жанчына, ад правільных паводзін якой залежыць жыццё і здароўе ейнага будучага дзіцяці, практычна знаходзіцца ў інфармацыйным вакууме. Нешта можа і падказа ўрач, але збольшага паводзіны цяжарнай жанчыны фарміруюць парады бабулек, матуль і знаёмых, палова з якіх па сваёй каштоўнасці не далёка адышла ад забабонаў.

Аб элементарнай неадукаванасці ў пытаннях цяжарнасці беларускіх жанчын сведчыць і папулярнасць адмысловай кансультацыйнай тэлефоннай лініі для іх (220-00-55). Яе тры гады таму наладзіла грамадская арганізацыя «Надзея-экспрэс». Патэлефанаваўшы сюды, можна атрымаць кансультацыю ўрача-гінеколага па любых хвалюючых пытаннях.

Як распавяла дырэктар праграмы «Маці і дзіця» ў «Надзея-экспрэс» Людміла Собаль, тэлефануюць і цяжарныя, і ўжо нарадзіўшыя жанчыны, а таксама падлеткі і сталыя жанчыны. І ўсе шукаюць адказ на нейкае пытанне. Падлеткі зусім не дасведчаныя, напрыклад, як дзяўчынгаставаць цяжарнасць, як ёй можна запабегнуць і як перапыніць. Цяжарных жанчын хвалюе пагроза перапынення цяжарнасці і тое, ці можна ім прымаць лекі падчас цяжарнасці. Шмат хто пытаецца, як трэба рыхтаваць сябе да родаў і якая радзільня ў Мінску лічыцца лепшай. А для ўжо нарадзіўшых узнікае шмат пытанняў па кармленні немаўляткі.

За мяжой такой праблемы недасведчанасці не існуе ўвогуле. Там для будучых матуль і татаў дзейнічаюць школы ці курсы, наведваючы заняткі ў якіх, яны становяцца падкаванымі ў пытаннях цяжарнасці і родаў не горш за медыкаў. Давялося б нарадзіць нечакана ў чыстым полі, яны не разгубіліся б і зрабілі ўсё як след. Таму шмат якія сямейныя пары не баяцца нараджаць дома пры дапамозе акушэркі. У той жа Галандыі, напрыклад, так робіць трацына цяжарных. А тое, што ў гэтай краіне самы нізкі паказальнік дзіцячай смяротнасці, сведчыць толькі на карысць такой перадродавай падрыхтоўкі.

У Беларусі такія курсы адшукаць цяжка. Гады тры таму «Надзея-экспрэс» разам з галандскімі спецыялістамі арганізавала нешта падобнае ў нас. Паводле Людмілы Собаль, прывабліваць жанчын у клубы давялося толькі па першым часе, а зараз жадаючых у іх патраціць нават больш, чымсьці яны могуць змясціць. Звычайна ў клубах жанчыны збіраюцца з мужамі штомесяц і ў спакоі, за гарбатай спецыяліст ім распавядае і паказвае, як трэба сябе паводзіць падчас схватак, родаў і цягам усёй цяжарнасці, чым харчавацца ці як абараніць сябе ад інфекцыяў. На думку медыкаў, жанчыны, якія прайшлі праз такія клубы, падчас родаў адрозніваюцца ад астатніх парадзіх сваёй упэўненасцю, падрыхтаванасцю. І роды ў іх прымаць нашмат лягчэй. Некаторыя з такіх «клубных» жанчынаў трапляюць нараджаць да тых жа ўрачоў, якія вялі ў іх заняткі ў клубах. А тады ўжо і ўвага іншая.

Для замежнікаў такі падыход да парадзіхі – звычайная практыка.

Калі ў нас цяжарнасць вядзе адзін доктар, а роды прымае зусім іншы, то там цяжарная не пераходзіць ад доктара ў рукі, а з усімі гэтымі функцыямі цалкам спраўляецца адзін чалавек. Недзе гэтую ролю выконваюць сямейныя дактары, а недзе акушэркі. Для жанчыны так і спакайней, і зручней.

Правам выбару сабе ўпадабанага доктара айчынная бясплатная сістэма медычнага абслугоўвання беларусак не цешыць. Хаця, напрыклад, у радзільным аддзяленні 7-ай бальніцы гэта магчыма, але толькі за грошы. Затое ўрач мусіць прыехаць да цябе нават уначы.

Аднак ад мажлівага хамства медычнага персаналу ці абыякавасці ўрача плата за роды ўсё роўна не застрахуе. З тых 100-200 даляраў, што каштуюць платныя аддзяленні ў сталічных бальніцах, доктар і медычны персанал атрымлівае дробязь. Збольшага гэта проста аплата за камфортныя ўмовы ўтрымання і асобную палату. А таму на нейкую дадатковую ўвагу да сваёй асобы за грошы спадзявацца няма чаго – яна будзе роўна такой самай, як і да астатніх.

А вось гэта ўжо зусім асобная тэма размовы. Ад жанчынаў, што прайшлі праз сцены айчынных радзільняў, зрэдку даводзіцца чуць нешта добрае і ўдзячнае. Нават складаецца ўражанне, што ў Мінску няма ніводнага добрага радзільнага аддзялення: паўсюдна альбо ўрач нешта не дагледзіць, не дачысціць – і пасля родаў абавязкова чакай ускладненняў, альбо наслухаешся брыдоты ад медычнага персаналу.

Каб здабыць сабе спакой і ўпэўненасць, жанчынам застаецца адзіны шлях – пошук асабістых кантактаў з дактарамі. І лепш, калі гэта будзе не хабар, а звычайныя чалавечыя стасункі ў клубах для цяжарных за кубкам гарбаты.

«Іржавы» механізм медычнай сістэмы з цяжкасцю паддаецца хоць нейкаму рэфармаванню. Напрыклад, такіх клубаў для перадродавай падрыхтоўкі жанчынаў «Надзеі-экспрэс» удалося арганізаваць толькі тры: у дзвюх жаночых кансультацыях (№17 і 36) і адзін агульнагарадскі клуб. У іншых паліклініках гэтая ідэя пакуль не ўкаранілася.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Скарачэнні ў Віцебску

У Віцебскі цэнтр занятасці насельніцтва прадпрыемствы і арганізацыі гораду прадставілі звесткі па колькасці намеркаваных скарачэнняў. Паводле іх, бліжэйшым часам у Віцебску будуць звольненыя болей за 3 тысячы чалавек. Напрыклад, на заводзе тэлевізараў «Віцязь» пад скарачэнне патрапяць 420 працоўных.

## Чатырохузроўневая сістэма пенсійнага забеспячэння

«У нашым грамадстве пакуль не існуе пенсіі, якая адпавядала б таму ўкладу, той працы, што чалавек на працягу свайго жыцця ўносіць у развіццё эканомікі і дзяржавы». Такую заяву зрабіў 25 лютага прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі на паседжанні прэзідыуму ўраду па пытаннях рэфармавання пенсійнай сістэмы. Паводле яго словаў, галоўныя праблемы ў гэтай сферы – ненадзейнасць крыніцаў фінансавання сістэмы і нізкая дыферэнцыяцыя пенсій. На сённяшні дзень запазычанасць суб'ектаў гаспадарання Фонду сацыяльнага страхавання перавышае 78 млрд. рублёў.

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны распрацавала чатырохузроўневую сістэму пенсійнага забеспячэння. Як заявіла ў інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню кіраўніца гэтага ведамства Антаніна Морава, сёлета плануецца распрацаваць законы аб асновах пенсійнай сістэмы, дзяржаўным пенсійным страхаванні і дзяржаўным пенсійным забеспячэнні. У 2003-2004 гадах прадугледжваецца рэалізацыя захадаў па стварэнні сістэмы дадатковага пенсійнага страхавання і забеспячэння. «Канчатковая мэта рэфармавання – павелічэнне памеру пенсій, дыферэнцыяцыя ў залежнасці ад сярэдняй заработнай платы і паляпшэнне сітуацыі з пенсійным фондам», – сказала Морава.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Споведзь партыйнага кар'ерыста

*Некалькі гадоў таму я здзейсніў учынак: я ўступіў у партыю. Хацелася быць у першых шэрагах змагароў з рэжымам. Мяне павіншавалі, паціснулі руку, а праз месяц-другі прапанавалі стаць на чале маскоўскай раённай арганізацыі гораду Мінску. Я пагадзіўся. Не, кар'ера партыйнага функцыянера мяне не прыцягвала, але недзе ў глыбіні душы было прыемна. Цэняць таварышы!*

У спадчыну ад папярэдніка я атрымаў спіс сябраў на трох аркушах – у ім былі 75 прозвішчаў. Наступнага ж вечара сеў на тэлефон. Вынік абзвону аказаўся нечаканы: 60 «аднапалчан» папрасілі больш іх не турбаваць. Астатнія 15 памяталі назву партыі, у якой былі запісаныя, і ад сяброўства не адмовіліся. Вызначыўшы працэнт «адмаўленцаў» пры дапамозе калькулятара (80%), я зразумеў, што тут, як і ў выпадку з Карабасам-Барабасам, «ёсць нейкая таямніца». Таямніца гэтая не давала мне спакою дні тры. Я зноў абзваніў людзей. Далёка не ўсе пагадзіліся на гутарку. Некаторыя проста мяне паслалі, але рабочая гіпотэза ўзнікла. Сваю гіпотэзу я выклаў кіраўніцтву. Выслухалі мяне з цікавасцю. Папрасілі скласці на паперы план мерапрыемстваў. Цераз дзень гэты план быў гатовы.

Што далей? Далей усё пайшло як па масле. Без лішняй цяганіны і бюракратычных адтэрміновак я 4 месяцы ўдакладняў дату чарговай сустрэчы. Усё неяк не атрымлівалася. Папершае, Страсбург. «Генсек» увесь час сядзеў у Страсбургу. Па-другое, у аднаго вельмі адказнага таварыша, куратара гэтага сектару працы, забалеў зуб. Па-трэцяе... я, шчыра кажучы, ужо і не памятаю, што было патрэцяе. Але дайце веры, нешта там было. Карацей... не суджана. Я змаладушнічаў. Выкінуў белы сцяг і, як 60 былых сябраў маскоўскай раённай арганізацыі, папрасіў больш мяне не турбаваць.

«Індывід увогуле схільны лічыць свае ўласныя ўзаемаадносіны з лідэрам цэнтральнай праблемай групы». Гэта Эрык Берн. Кніга называецца «Лідэр і група». Цытата выдатная. Я відавочна пераацаніў сваю ролю, зацыкліўшыся на праблеме колькаснага складу партыі. У кіраўніцтва былі справы і больш важныя. Той жа Страсбург, напрыклад, дый прэзідэнцкія выбары блізіліся. Як казаў папулярны герой аднаго папулярнага анекдота: «Не да грыбоў».

Але выбары мінуліся. Народ успрыняў абвешчаны вынік як дадзенасць і супакоіўся. Надышоў час каментароў і аналізу, час раздачы сланоў. Аказалася, што лідэра вылучылі не таго, не так, дый не ў той тэрмін. Эліту не прыцягнулі, а з галоўным міжнародным вектарам памыліліся акурат на 180°. Партыйцы, ясная рэч, апраўдваюцца і валяць усё на абставіны. А што ім яшчэ застаецца рабіць?

З лёгкай рукі прафесара філасофіі Оргіша, каб надаць аналітычным артыкулам вобразнасць і даходлівасць, па старонках газет пайшлі гуляць неўміручыя вобразы Ільфа і Пятрова. Прыём удалы. Я і сам незразумелае спалучэнне літар КРДС заўсёды замяняў на «сухараўскую канвенцыю». Прынамсі, паводле сваёй лёсавызначальнасці гэта з'явы аднаго парадку.




Уявіце сабе, што апазіцыйным палітыкам удалося сабрацца разам! Вось сядзіць самы масціты. У яго ў маскоўскай раённай арганізацыі 15 штыкоў. Гэта я ведаю не па чутках (глядзі пачатак артыкулу). Насупраць самага масцітага другі, святлейшае масці. Ну і тут штыкоў 6–7 на згаданай адміністрацыйнай тэрыторыі налічыць можна. Скажыце, вам цікава, якія рашэнні будуць прынятыя? Мне – не. І якое дачыненне ўсё гэта мае да палітыкі?

Тут самы час разабрацца з тэрмінамі. Займацца палітыкай – значыць фармаваць грамадскую думку. Хоць у наш дэмакратычны час па гэтым пытанні могуць існаваць і іншыя думкі. Сухараўскія міжсабойчыкі бясспрэчна цікавыя для саміх удзельнікаў. Усе гэтыя кааліцыі, кансенсусы. Дый знаёмае ад магчымых камбінацый. Але для рэальнага ўплыву на масы найперш патрабуецца масавасць саміх арганізацыяў уплыву. Выбачайце за каламбур.

Вернемся да Эрыка Берна. «Самае галоўнае ў кожнай групе – гэта сам факт яе існавання. Група, якая перастае існаваць, робіцца з'явай гісторыі, як Старажытны Егіпет або Асірыя. Таму найгалоўнейшы клопат кожнай здаровай групы – выжыць найдаўжэй, прынамсі патуль, пакуль не выканана задача. Стандарты здароўя для групы, як і для арганізму, – даўгавечнасць, эфектыўнасць і здатнасць да росту».

Згодна з тэорыяй, любая група мае знешнюю і ўнутраную граніцу. Знешняя ахоплівае ўсіх чальцоў гэтае групы (партыі), унутраная аддзяляе лідэраў ад астатніх. Так, гэткі падзел абавязковы! Без выразнага кіраўнічага ядра ніводная арганізацыя, пагатоў буйная, існаваць не можа. Але асноўныя намаганні «правадыроў» павінны накіроўвацца на пашырэнне знешняй граніцы, то бок на вярбоўку новых удзельнікаў. Эфектыўная праца і здатнасць да росту – сінонімы. Безумоўна, у вольны час можна з'ездзіць і ў Страсбург – горад, кажуць, прыгожы.

Назіраючы «самую шматлікую» апазіцыйную партыю з сярэдзіны, я ўсё ніяк не магу пазбыцца пачуцця сваёй непатрэбнасці. Апытанне 60-ці «адмаўленцаў» пацвярджае – маё адчуванне не унікальнае. Ядро яўна не імкнулася пашырыць зону наўпроставага ўплыву шляхам вярбоўкі новых «байцоў». Памятаеце мужыка, які прынёс у кантору па зборы рагоў і капытоў мех адборнай сыравіны? Мех прынялі. А дзе было дзецца? Але гэтая закупка аказалася адзінкавая. Знешні назіральнік відавочна здзівіўся б выніку. Адкуль яму ведаць пра тое, што дэклараваныя публічна мэты і сапраўдныя задачы нарыхтоўчай канторы не супадалі?

На заканчэнне пару словаў пра «работу з наменклатурай». Пералічваць усе пералічаныя памылкі не мае сэнсу. Вось толькі адна цытата з «БДГ». «Альянс наменклатуры з радыкальнымі сіламі не прыносіць пераможных балаў ні тым, ні другім». Пытанне досыць спрэчнае і зноў-такі зводзіцца да трактоўкі тэрмінаў. Што такое радыкальныя сілы? У чым іх сіла? У 15-ці рамантыках з раённай арганізацыі, якія яшчэ не паспелі расчаравацца? А што такое наменклатура? Скарыстоўваючы марксісцкі жаргон, я вызначыў бы апошнюю як групу людзей, якім ёсць што страчваць. Спакушаць і ўгаворваць «наменклатуршчыкаў» не варта. Правільныя словы пра дэмакратыю і рынкавыя рэформы тут не да рэчы. Проста пакажыце наменклатуры сваю сілу, калі такая ёсць. Наменклатура кемлівая. У патрэбны момант, калі справа будзе блізіцца да фіналу, яна выйдзе на сцэну і згуляе сваю ролю. Так было заўсёды. Зазірніце ў гісторыю. Без падтрымкі наменклатуры пытання пра ўладу не вырашыць. Зразумела, уключыўшыся ў гульню, наменклатура паспрабуе згуляць галоўную ролю. «Чыстым палітыкам» і давядзецца таргавацца, таргавацца з пазіцыі сілы, калі такая ёсць.

Усё вышэйсказанае тычыцца і спробаў апазіцыі знайсці падтрымку ў Маскве (чытай – у расійскай наменклатуры). «Не трэба словаў, пакажыце, што ў вас рэальна ёсць, і мы вырашым, колькі вам дадаць». Я мяркую, у Крамлі разважаюць прыкладна так.

У год прэзідэнцкіх выбараў займацца выбарамі позна. Аб'яднаная сіла «сухараўскай канвенцыі» не можа быць большая за сумарную сілу яе ўдзельнікаў. Нават калі ўсе дружна пацягнуць у адзін бок. Здароўе любой групы, як ужо адзначалася, вызначаецца яе здатнасцю да росту. Вось на гэта і трэба накіроўваць усе сілы да выбараў, падчас выбараў і пасля выбараў, незалежна ад іх выніку.

**Сяргей НІКАЛЮК**

# Валерыя Навадворская: патрыятызм – першы прытулак нягоднікаў

*Нешта дымам Айчыны пацягнула; пэўна, на кухні ў нашых прысяжных патрыётаў гатуецца новая страва, і, мяркуючы па амбрэ, падгарэлая і прагорклая. Ужо не ведаю, што ўнюхваў на пад'ездзе да Масквы «почвенник»-пачатковец Чацкі: можа, з тагачасных маскоўскіх кухень і праўда пахла рабчыкамі ў смятане, гусем з яблыкамі і капустаю з «Славянскага базару».*



Цяпер жа нешта нічым ядомым не пахне, бо ўсім пірожнікам загадана пайсці ў шаўцы, а пашытыя імі боты будуць мыць у навакольных акіянах заарканеныя ваенкаматамі патрыёты, якім не пашчасціла і ў якіх не хопіць касмапалітычных баксаў, каб заплаціць за ярлык на пацыфізм, вахабізм, будызм або за сяброўства ў найбліжэйшай масонскай ложы «Далёкі Усход»...

Не заплаціш – паедзеш на антытэрарыстычны фронт у Чачню, дзе кааліцыя ў складзе федэральнага неабмежаванага кантынгенту, засланых казачкоў з-над Цераку, гантэміраўскіх і кадыраўскіх хаджымуратаў, чыя гістарычная радзіма – расійскі бюджэт, а таксама іншых прадстаўнікоў земскага сабору ў выглядзе *СОБРу*, *ОМОНу* і гэбульнікаў-перасоўнікаў з ФСБ каторы год «чысціць» некалькі дзесяткаў чачэнскіх сёлаў.

Два гатункі патрыятызму: патрыятызм палкоўніка Буданава, які з «ідэйных меркаванняў» згвалціў і забіў 17-гадовую Эльзу і заадно ледзь не «грохнуў» свайго афіцэра за адмову выконваць вар'яцкі загад. Плюс да таго патрыятызм тых, хто будзе помсціць за Эльзу. І патрыятызм Ані Паліткоўскай, якая лазіць па ямах, зінданах і задворках федэралаў і па ачышчаных ад паловы насельніцтва чорных чачэнскіх сёлах, раскопваючы злачынствы ўласнай краіны. Ах, прабачце, забылася: тыя, хто будзе помсціць – гэта тэрарысты, дзеля якіх з Расіі зрабілі сарцір, каб у ім іх замачыць, а журналісты ТВ-6, Анна Паліткоўская, Грыгорый Пасько – гэта здраднікі, ханційскія шпіёны і агенты ўплыву Еўрапейскага Саюзу.

Усе мы, вядома, іншаземцы па нараджэнні і касмапаліты па рамястве. Дый які прыстойны чалавек у гэтай краіне рызыкне назвацца патрыётам, калі ў нас патрыятызм – не апошні, а першы прытулак нягоднікаў?

Бо калі хочаш атрымаць ласункі ад цяперашняй улады, то выбягай на вуліцу і гарлай «Гвалт!» На ўсе чатыры бакі свету. Паўсюль здрада, адусюль крадуцца каталікі, дэмакраты, заходнікі, апазіцыянеры, журналісты недзяржаўнага прызначэння, ПАСЕ, дзярждэп, чачэнскія сепаратысты, адмаўленцы ад рэкрутчыны, алігархі і іншая нечысць... Патрыятызм – гэта калі зубы тырчком, рукі дручком. А на грудзях прэзідэнцкая парсуна ў натуральную велічыню. Хадзі і верашчы: «Слова і Дзела Гасударава (Прэзідэнтава)!» Куды ні сунешся, паўсюль патрыёты, як саранча, зжыраюць усё жывое і нечага вартае на сваёй дарозе. Бо калі банда голеных крэтынаў збівае аж да смерці армян, азербайджанцаў, грузінаў на рынку і каля рынку, яны будуць вішчаць у судзе, што забілі не таму, што хуліганы і бандыты, а таму, што патрыёты. Бо ніякі федэрал-кантрактнік, ніякі генерал ад імперыі і інфантэрыі не скажа шчыра, што яму ахвота парабаваць, пакатаваць, набраць грошай за выкуп целаў мёртвых чачэнцаў і яшчэ паўжывых, якіх інакш перавядуць у мёртвыя, што можна разжыцца выручкаю з левых нафтавых свідравінаў. Не! Ён таксама патрыёт! Абаронца Айчыны, слуга цара! Уладзіміра яму першай ступені з мечам і банцікам...

Цяперашняя форма патрыятызму – не столькі абарончая (*«Но сурово брови мы насупим, если враг захочет нас сломать»*), колькі агрэсіўна-наступальная (*«Когда нас в бой пошлет товарищ Путин»*; я не смяюся, ёсць жа песенька *«За нами Путин и Сталинград»*). Замест лапцей, армяка і сарафана нацыянальнай адзежай робіцца камуфляж *unisex* і чорная элегантная панчоха на галаву. Незразумела толькі, ад якога збірацца адбівацца наш ваенна-спартыўны прэзідэнт.

Падобна, што ў сухім астатку апынаецца праціўнік, які з'ўляецца ў Крамлі па начах яго жыхарам з лічбаю «6» у лобе (ці то забіты канал, ці то 1/3 лічбы звера, ці то будучы курс даляра, які ў выніку патрыятычных пасаў над эканомікай хутка будзе каштаваць 60 р.) – гэта сама Гісторыя.

Бяда толькі ў тым, што Гісторыю не зміняць нават боегалоўкамі з балістычных ракетаў. Можна толькі спыніць яе, пачаўшы ядравую вайну, да якой падсвядома рыхтуюцца нашы патрыёты, збіраючыся цягаць на зборы нават школьнікаў. Але не дзеля таго піцэрскія, крамлёўскія і ахотнарадскія панабудавалі сабе палацаў і асядлалі нафтавыя і газавыя трубы, каб памерці ад рук амерыканскіх імперыялістаў, як нейкія там талібы ў сваіх *каторжных норах*. Не, яны яшчэ пажывуць.

А вось нам жыць не дадуць. У гэтым уся соль савецкага патрыятызму, калі для ўдаваў – адзін сцэнар, а для трусоў – зусім іншы. І не думайце, што яны будуць выконваць пагадненне пра гуманны заглыт.

Што ад нас з вамі патрабуецца? Даць сябе праглынуць і не псаваць удавам апетыту сваімі развагамі і лемантацыямі пра жыццё. Таму журналісты каманды Кісялёва паводзяць сябе надзвычай непатрыятычна. Замест таго, каб спакойна ляжаць у магіле разам з галоснасцю, яны ўжо другім навааратам уваскрасаюць і спрабуюць казаць праўду. Хоць сказана ж, што мёртвых назад з пагосту не носяць. У тым ліку і мёртвыя рэформы. І мёртвыя правы. І мёртвую Канстытуцыю. Нашы патрыёты-ліквідатары забыліся, з чаго трэба пачынаць, і хаваюць апанентаў жывымі, выдаючы пад распіску саван і белыя тапачкі. От сталінскія патрыёты пачыналі з куль ў патыліцу. Канчалі ўжо потым. А ў пуцінскіх сокалаў пакуль што ўсё наадварот.

Нашыя патрыёты прывыклі ўсхваляць кожную паганую лужыну айчыннага паходжання, асабліва калі ў ёй плавае крыху карысных выкапняў. А тых, хто не хоча піць з гэтай паганай лужыны, рана ці позна назавуць ворагамі народу. Бо ворагі самадзяржаўя і казённага праваслаўя ніяк не могуць быць ворагамі народнасці. Скажам, *«Эхо Москвы»*, дзе, акрамя радыёапанентаў Крамля, цяпер апынуліся яшчэ і тэлепрацаўнікі таго ж профілю. Няўжо Алёша Венедыктаў (галоўны рэдактар *«Эха Москвы»*. – НАША СВАБОДА) не ведаў правілаў гульні пры акупацыі? Таго, хто хаваў партызана, самога чакаў расстрэл. Як бы нам пасля 20 чэрвеня не пабачыць, як *«Эхо Москвы»* матляецца з таблічкаю на грудзях: «Я памагаў Гусінскаму, Беразоўскаму і Кісялёву з Шэндэровічам». Зрэшты, якое *эхо* можа быць пры цяперашніх закамуфляваных патрыётах, у якіх калі ў біяграфіі і была «гражданка», дык толькі Лубянка? Толькі «Яволь!» і «Хайль!». Паўфінал па Галічу, які таксама ўдосталь, да смерці наеўся патрыятычных страваў пад ванітны дым Айчыны:

*«Усни, Маргарита, за прялкой своей, я – отдохнуть бы и рад, но стелется дым, и дурит суховей, и рукописи горят. И опер, смешав на столе домино, глядит на часы и на наше окно. Он, брови нахмурив густые, партнеров зовет в понятые».*

**Sobesednik.ru**

# Дзяржава-калека

## *Паралізаваны голадам, беднасцю і кланавымі сваркамі Таджыкістан, найменшая з дзяржаваў, прайграе ў барацьбе за выжыванне*

*Спакой, які пануе на пустой вуліцы ў Джогедзе, здаецца дзіўным у дзяржаве, у якую прыйшоў голад і дзе ўжо трэці год пануе засуха. У такіх вёсках, як Шаартуз, міжнародная дапамога дазваляе людзям выжыць. Жанчыны і дзеці збіраюцца тут, каб атрымаць правіянт.*



Гэта была найбяднейшая рэспубліка ўва ўсім Савецкім Саюзе. Неўзабаве пасля атрымання незалежнасці ў 1991 годзе яе апанавала грамадзянская вайна, якая каштавала жыцця сама менш 50 тысячам чалавек. Бальшыня кваліфікаванай рабочай сілы ўцякла з краіны. Лёгка зразумець, чаму знаўцы Сярэдняй Азіі называюць Таджыкістан дзяржаваю-калекай, якой цяжка будзе выжыць без замежнай дапамогі.

Таджыкі – народ персідскага паходжання. Яны складаюць 65% з 6,6 млн. жыхароў краіны. Рэшта – збольшага узбекі, якія насяляюць таджыкскі лапік Ферганскай даліны. Шмат хто з таджыкаў мае крэўных у паўночным Афганістане. Хоць бальшыня таджыкаў у гэтым «-стане» вызнае памяркоўны варыянт ісламу, горы заўсёды служылі прытулкам мусульманскіх экстрэмістаў.

93% плошчы Таджыкістану, дзяржавы меншай за палову Польшчы, займаюць горы. Бальшыню прыдатных для земляробства 6% плошчы доўгі час займалі дзяржаўныя плантацыі бавоўны. Яна дагэтуль застаецца галоўным сельскагаспадарчым прадуктам, але ўраджаі і цэны з савецкага часу ўпалі.

У Душанбе, сталіцы краіны, ад часу да часу выбухаюць бомбы. Палітычныя лідэры гінуць ад куляў. Гэта наступства грамадзянскае вайны – хаатычнай, шматбаковай барацьбы за ўладу, якая трывала аж да замірэння ў 1997 годзе, але перыядычна выбухала і пазней. Атрады камуністаў, таджыкскія кланы, ісламскія сілы і мясцовыя атаманы змагаліся міжсобку. Апошнія спрабавалі захапіць сабе сціплую маёмасць дзяржавы, напрыклад, тэкстыльныя фабрыкі. У 1992 годзе Расія прыслала сюды свае войскі, каб суняць канфлікты і пашырыць свой уплыў у Сярэдняй Азіі. Прысутнасць расійскай арміі дагэтуль застаецца значнаю.

На выбарах у 1994 годзе пасаду прэзідэнта здабыў Эмамалі Рахмонаў, былы дырэктар саўгасу. Ягоныя крытыкі сцвярджаюць, што ён заключыў саюз з кіраўнікамі міліцыі, якія кантралююць пэўныя рэгіёны краіны і часам кіруюць прадпрыемствамі. Частка камандзіраў перавозіць опіум з Афганістану, галоўнага ў свеце яго вытворцы. Найбольшае прадпрыемства краіны – магутны алюмініевы завод, збудаваны за Саветамі. Гідраэлектрастанцыі на горных рэках давалі неабходную энергію, але руду і баксіты даводзілася завозіць з-за мяжы. Завод, на якім вісіць 120 мільёнаў даляраў доўгу, працуе дагэтуль, хоць вытворчасць яго змяншаецца.

Найбольш перспектыўным для Таджыкістану, магчыма, будзе развіццё дробных гаспадарак і садоў. Урад дазволіў некаторым сялянам прыватызацыю, і шмат хто выдатна даў сабе рады з зямлёю. Фонд Агу Хана (дабрачынная арганізацыя) адзначыў двухкротны рост ураджаяў у сялян, якія атрымалі невялікія пазыкі на закуп насення і ўгнаенняў і на будоўлю каналаў.

Але гэта – ці не адзіная добрая навіна з Таджыкістану.

**National Geographic**

| | |
|---|---|
| **Насельніцтва**<br>6,6 млн. | **Рэлігіі**<br>іслам суніцкі 80%<br>іслам шыіцкі 5%<br>іншыя 15% |
| **Сталіца**<br>Душанбе | **Сярэдняя працягласць жыцця**<br>64,2 года |
| **Мовы**<br>таджыкская, расійская (працэнтны падзел невядомы) | **Дзіцячая смяротнасць**<br>116 на 1 000 народзін |
| **Нацыянальныя групы**<br>таджыкі 65%<br>узбекі 25%<br>расейцы 3%<br>іншыя 7% | **Плошча**<br>143 100 кв. км |

# Мова і Малдова

У нядзелю ў Кішынёве адбыўся мітынг, у якім узялі ўдзел каля 100 тысяч чалавек. Гэта адна з самых масавых апазіцыйных акцыяў апошняга часу. Папярэднія мітынгі, якімі адзначыліся і студзень, і люты, збіралі 25 тысяч удзельнікаў, галоўным чынам моладзь. Мітынг 24 лютага, названы «вялікім нацыянальным сходам», быў арганізаваны Хрысціянска-дэмакратычнай партыяй і прымеркаваны да гадавіны «бальшавіцкага праўлення» – перамогі партыі камуністаў на парламенцкіх выбарах у Малдове. Выступы прамоўцаў натоўп увесь час перапыняў скандаваннем: «Далоў камуністаў!», «Нам не патрэбны прэзідэнт-бальшавік!», «Няхай жыве свабода!».

Варта нагадаць, што прычынай паўтарамесячных акцыяў пратэсту ў Малдове стала прадстаўленне ад імя правячай партыі камуністаў у Канстытуцыйны суд законапраекту аб наданні ў рэспубліцы рускай мове статусу другой афіцыйнай і ўнясенні адпаведных зменаў у галоўны закон дзяржавы. Законапраект прадугледжваў выкарыстанне ў рэспубліцы рускай мовы ў справаводстве і афіцыйных дакументах, абавязковае вывучэнне рускай мовы ў школе з першых класаў. Таксама ўлады мелі намер замяніць курс гісторыі Румыніі курсам гісторыі Малдовы, што, на думку малдаўскіх навукоўцаў, штучна адрывала меншую частку народу ад большай і было скіравана на аднаўленне той русіфікатарскай палітыкі, якую праводзіць Масква. Масавыя мітынгі пачаліся яшчэ 9 студзеня пасля таго, як урад спецыяльным указам загадаў пачаць вывучэнне рускай мовы ў школах і ліцэях. Сутыкнуўшыся з магутнымі пратэстамі студэнцтва і інтэлігенцыі, урад абвясціў мараторый на свае «моўны» і «гістарычны» ўказы, каб змякчыць становішча ў краіне, але апазіцыя, ужо не маючы веры камуністычнаму ўраду, вырашыла акцыяў пратэсту не спыняць.

Перад пачаткам нядзельнага мітынгу лідэр ХДП Юры Рошпа заявіў: «Мы выставілі свае палітычныя патрабаванні і будзем настойваць на іх выкананні. Малдова знаходзіцца ў глыбокім палітычным крызісе, з якога існуе толькі адно выйсце – адстаўка ўсяго кіраўніцтва краіны і правядзенне датэрміновых парламенцкіх выбараў. На гэтым мы будзем настойваць да канца».

Напярэдадні прэзідэнт Малдовы Уладзімір Варонін, каб зменшыць мітынговы напал, звярнуўся да грамадзянаў краіны з просьбай «не ўдзельнічаць у дэстабілізацыі грамадска-палітычнай абстаноўкі». Варонін заявіў, што будзе змагацца з радыкаламі «дэмакратычнымі метадамі». Аднак мітынг паказаў, што грамадства настроена на сапраўдныя эканамічныя рэформы, а не на русіфікацыю.



Адначасна генпракурор Малдовы Васіль Русу паабяцаў, што пракуратура пастараецца прыцягнуць да адказнасці ўсіх арганізатараў акцыяў пратэсту. На яго думку, праваахоўныя органы павінны даць заключэнне, ці можна расцэньваць гэтыя падзеі як спробу дзяржаўнага перавароту. Зразумела, што станоўчы адказ на такое пытанне дазваляе ўраду прымяніць сілу, што, аднак, таксама можа дэстабілізаваць сітуацыю.

Наступны «вялікі нацыянальны сход», па прапанове ўдзельнікаў мітынгу, вырашана правесці праз месяц – 31 сакавіка.

**Іона СОФАРУ**

# Ва Украіне дэпутатаў увесну лічаць

*Сёлетнія парламенцкія выбары ва Украіне, якія пройдуць праз месяц, цікавыя і важныя перш-наперш тым, што па сканчэнні іх будзе сфармаваная Вярхоўная рада. А яна станецца плацдармам, з якога распачнецца прэзідэнцкая кампанія 2004 году. Будзе Вярхоўная рада прапрэзідэнцкай – новым прэзідэнтам Украіны хутчэй за ўсё зробіцца нехта з атачэння Леаніда Кучмы. Калі ж украінскі парламент «паправее», павялічваюцца шанцы ў кандыдата на прэзідэнта ад нацыянал-дэмакратычных сілаў.*

Дэпутатаў у Вярхоўную раду ўкраінцы заўжды абіраюць увесну, у першы вясновы месяц, бо такі тут закон: парламенцкія выбары мусяць праходзіць у апошнюю нядзелю сакавіка раз на 4 гады. Сёлета – гэта 31 сакавіка. Выбары пройдуць па змяшанай мажарытарна-прапарцыянальнай сістэме – па партыйных спісах і ў аднамандатных акругах. Каб патрапіць у парламент, партыі павінны пераадолець 4-працэнтны бар'ер, а асобны кандыдат – узяць 50% плюс адзін голас.

На мінулых выбарах у 1998 годзе перамаглі камуністы з 25% галасоў, на другім месцы апынуўся тады яшчэ цэлы Рух з 9%. Усяго 4-адсоткавы бар'ер тады ўзялі 8 украінскіх партыяў. 32% дэпутатаў былі незалежнымі. Пасля іх далучэння да розных груповак у Вярхоўнай радзе ўтварылася паўтара дзесятка фракцыяў. Найбуйнейшаю сталі камуністы – 30% ад усяго парламенту, ад 6% да 8% дэпутацкіх месцаў мелі фракцыі Сацыял-дэмакратычнай партыі (аб'яднанай), «Бацькаўшчына» на чале з колішнім віцэ-прэм'ерам Юліяй Цімашэнкай, «Адраджэнне рэгіёнаў», Народна-дэмакратычнай партыі, Працоўнай партыі, Украінскага народнага руху на чале з былым міністрам аховы прыроды Юрыем Кастэнкам.

Блакавацца да парламенцкіх выбараў-2002 украінскія партыі пачалі яшчэ з сярэдзіны мінулага году. З'явіўся блок «Наша Украіна», складзены з абодвух Рухаў, партыяў «Рэформы і парадак», «Салідарнасць», Хрысціянска-народнага саюзу, Моладзевай партыі Украіны, Кангрэсу ўкраінскіх нацыяналістаў, Ліберальнай партыі ды іншых. Першая асоба блоку – колішні прэм'ер Віктар Юшчанка. З іншых вядомых ва Украіне людзей разам з ім – старшыня Федэрацыі прафсаюзаў і ўладальнік піўзаводу «Абалонь». Як бачым, тут аб'ядналіся сілы досыць шырокага спектру, а не толькі нацыянал-дэмакраты, таму юшчанкаўскі блок больш дарэчы называць не правым, а права-цэнтрысцкім. Радыкальная апазіцыя прадстаўлена блокам Юліі Цімашэнкі, які ахрысцілі паводле ўкраінскай транскрыпцыі *БЮТІ* з намёкам на пекнасць лідэркі блоку і які складаецца з «Бацькаўшчыны», «Сабору», Украінскай сацыял-дэмакратычнай партыі, Украінскай рэспубліканскай партыі.

Створаны і адкрыта прапрэзідэнцкі блок «За адзіную Украіну» (па-ўкраінску «*За єдину Україну!*» альбо «*За єдУ!*»). Сюды ўвайшлі Народна-дэмакратычная партыя, Аграрная, Партыя рэгіёнаў, «Працоўная Украіна» і Партыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, а ачолілі блок кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Літвін і прэм'ер-міністр Анатоль Кінах.

Асобна ідуць на выбары такія ўплывовыя ва Украіне партыі, як Камуністычная на чале з Пятром Сіманенкам і Сацыял-дэмакратычная (аб'яднаная) на чале з алігархам Віктарам Медведчуком, які збіраецца балатавацца на прэзідэнта праз 2 гады.



Зараз у самым разгары вайна рэйтынгаў, пра якія можна спаткаць самыя супярэчлівыя дадзеныя. Мы падаём перадвыбарны рэйтынг палітычных партыяў Украіны паводле некалькіх агульнанацыянальных незалежных сацыялагічных даследаванняў. Зараз наперадзе ўроўнную ідуць блок «Наша Украіна» Віктара Юшчанкі і Камуністычная партыя, у якіх па 18%. Па-прарасійску настроеная Сацыял-дэмакратычная партыя (аб'яднаная), якая кантралюе тэлебачанне, мае 9%, блок «*За єдУ!*» – 6%, Партыя «зялёных» – 5%, «Жанчыны за будучае Украіны» (чыя патронка – жонка Кучмы) – 4%. Каля гэтага парогу праходнасці ў парламент набіраюць сімпатыяў Сацыялістычная партыя і *БЮТІ*.

Што да рэйтынгаў, на якія спасылаюцца самі блокаўцы, то, паводле прадстаўніка «Нашай Украіны» лідэра партыі «Рэформы і парадак» Пінзеніка, «НУ» мае падтрымку 25% выбарцаў, кампартыя – 13%, «*За єдУ!*» – не больш як 3%. Кіраўнік Народна-дэмакратычнай партыі і міністр транспарту Віктар Пуставойценка з «*За єдУ!*» сцвярджае, што ягоны блок набярэ 31 сакавіка сама менш за 25% галасоў. Відаць, спадзяецца на адміністрацыйны рэсурс.

Супраць усіх гатовыя прагаласаваць каля 7% грамадзян Украіны. Дарэчы, створаны нават блок «Супраць усіх», які хоча на ўсепратэстным электараце патрапіць у Вярхоўную раду. Наагул сумнеўных захадаў у цяперашняй парламенцкай кампаніі – процьма. Пераважна яны – справа рук расійскіх паліттэхнолагаў, па дапамогу да якіх не звярнуўся хіба толькі гультай.

Найперш гэта з'яўленне «клонаў» – двайнікоў і цёзак вядомых палітыкаў. У іх пошуках, у асноўным на Заходняй Украіне, дзе ў фаворы нацыянал-дэмакраты, шчыруюць улады. За ўдзел у выбарах двайнікам прапануецца ад 1 да 3 тысяч даляраў. 31 сакавіка ў бюлетэнях будуць некалькі кандыдатаў, напрыклад, з прозвішчамі Юшчанка і Стацько (лідэрка Кангрэсу ўкраінскіх нацыяналістаў). Ёсць двайнік і ў лідэра камуністаў Сіманенкі. Камуністы прапанавалі кіраўніцтву Украінскай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату ўвайсці ў іхні выбарчы спіс, але святары не толькі адмовіліся ад прапановы, але і сказалі «не» на просьбу дабраславіць Украінскую кампартыю на выбарах.

Большасць сацыёлагаў і палітолагаў лічыць, што новая Вярхоўная рада будзе хай і не настолькі, як папярэдняя, але ўсё ж прапрэзідэнцкай. Карацей, усё застанецца як ёсць. Куды больш важным будзе выбар украінцаў у 2004 годзе на прэзідэнцкіх выбарах.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Рэанімацыя Акадэміі навук

*Першая рэакцыя грамадскасці на прызначэнне Міхаіла Мясніковіча прэзідэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі была як на палітычную падзею. Але па-за ўвагай засталося меркаванне саміх навукоўцаў, якія часам не такія катэгарычныя, як палітыкі.*


Фота HEY/ProMedia

Пра настрої ў нацыянальнай акадэміі пасля прыходу Мясніковіча на пасаду прэзідэнта карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ папрасіла расказаць доктара фізічных навук, прафесара, супрацоўніка Інстытуту фізікі НАНБ, вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча Юрыя Хадыку

***– Спадар Юры, ці існуе зараз у акадэміі нейкая агульная пазіцыя або рэакцыя навукоўцаў на прызначэнне прэзідэнтам НАНБ Міхаіла Мясніковіча?***

– Ведаеце, чакаць ад нашай акадэміі якога-небудзь асэнсаванага пратэсту ці выяўлення грамадскай пазіцыі абсалютна немагчыма. Гэта нават горш, чым Расійская акадэмія навук, бо ў свой час яна неяк рэагавала на праблему перабудовы. Наша акадэмія і тады ніяк не рэагавала, і цяпер. На маю думку, сёння ёсць шмат доказаў таго, што беларуская навука загублена. Яна не выконвае сваіх галоўных абавязкаў. Навукоўцы павінны першымі казаць уладзе, дзе яна памыляецца, яны першымі павінны пратэставаць, але функцыя гэтая абсалютна страчаная. Акадэмічная сістэма падкантрольная ўладзе на сто працэнтаў. Усё захавалася так, як было пры камуністах, калі адбор навукоўцаў у вышэйшыя навуковыя структуры праводзіўся не па дасягненнях, не па здольнасцях, а выключна па лаяльнасці да ўлады. Таму беларуская навука перажывае зараз цяжкі крызіс, і перад Мясніковічам стаіць зусім не простая задача.

***– Ці змянілася апошнім часам сітуацыя ў матэрыяльным забеспячэнні патрэбаў акадэміі, у прыватнасці, ці павысіліся заробкі?***

– Гэта быў бы цуд. Я не магу сказаць, што старая сістэма размеркавання заробкаў была несправядлівая. Зараз фінансаванне становіцца меншым, таму, каб падтрымліваць заробкі на тым самым узроўні, трэба скарачаць людзей, што для навукі вельмі небяспечна. І так мы ўжо фактычна страцілі моладзь, асабліва ў інстытутах прыродазнаўчага кірунку. Яны былі ў нас вельмі добра развітыя і найбольш пацярпелі ад скарачэння фінансавання. Але іншага шляху няма. Не можа Мясніковіч з паветра ўзяць гэтыя грошы. Яго галоўная задача на сёння, як я разумею, гэта зрабіць больш эфектыўнымі сістэмы фінансавання, захаваць структуры акадэміі, перабудаваць адносіны ў навуцы.

***– Што вы маеце на ўвазе?***

– Эпоха застою характарызавалася ў навуцы, як і ў дзяржаўных структурах, з'яўленнем кланаў. Ва ўладных структурах быў кіраўнічы віцебскі клан, пасля – берасцейскі, зараз мы назіраем магілёўскі. У акадэміі было тое самае: у залежнасці ад прэзідэнта ствараўся зручнае для яго атачэнне.

Для навукі, дзе павінна быць свабода, дзе канкурэнтнасць, барацьба – неабходныя ўмовы, любыя кланы – гэта смерць. Таму беларуская навука загніла знутры, і з таго часу ўсякае развіццё спынілася. Праблема кланаў захавалася дагэтуль. Калі б у акадэміі былі найлепшыя навукоўцы, кланаў не было б, бо найлепшым няма чаго баяцца канкурэнцыі.

Цяпер, сітуацыя вельмі складаная. Напрыклад, сярэдні век акадэмікаў прыкладна 70 гадоў. Гэта смешна, але адначасова гэта спрычыняе вялізныя страты.

Мы ўсе сведкі таго, як дзесяць гадоў таму прыйшоў час вырабаванняў – і акадэмія аказалася няздольная да самарэфармавання. Нашыя гуманітарныя ў той час увогуле сядзелі ціха, што ўсім добра вядома, абсалютна не клапоцячыся ні аб рэформе правапісу, ні аб стварэнні інстытуту перакладу і г.д. Пасля таго, як загубіліся механізмы ўнутранага ачышчэння, беларуская навука стала, груба кажучы, «загінацца».

Таму, у адрозненне ад большасці іншых рашэнняў Лукашэнкі, рашэнне накіраваць у акадэмію М.Мясніковіча – менеджэра, які мае шырокія паўнамоцтвы па рэфармаванні ўнутраных структураў акадэміі, я цалкам падтрымліваю.

***– Атрымоўваецца, што ўнутраныя механізмы функцыянавання акадэміі не такія ўжо і навуковыя, і адпаведна вырашыць гэтыя праблемы можа чалавек далёкі ад навукі.***

– Мясніковіч не навуковец, гэта відавочна. Для перабудовы акадэмічных стасункаў яму неабходна знайсці дарадцаў на кожным пытанні. Бо старая структура ў інстытутах глыбока ўкаранілася і нават выцінула многія здаровыя кірункі. Гэта як цяжкая хвароба. Трэба пачакаць, я думаю: праз год, можа праз паўтара, Мясніковічу ўдасца нешта рэфармаваць. Яго прызначылі ў кастрычніку, гэта не вельмі вялікі тэрмін, каб нешта зрабіць з такой структурай.

***– Спадар Юры, а ці ёсць на гэты момант нейкія станоўчыя змены?***

– Адразу пасля прызначэння сп.Мясніковіч правёў шэраг сустрэч з сярэднім кіраўнічым складам акадэміі і папрасіў прапановаў.

***– Што асабіста вы параілі сп.Мясніковічу?***

– Я прапанаваў звярнуць увагу на Музей старажытнабеларускай культуры, які зачынены дваццаць гадоў. Трэба адзначыць, што ён прыслухаўся да гэтай парады, наведаў музей. Праўда, яшчэ не вядома, якія будуць вынікі гэтага наведання.

Таксама я напісаў прапанову наконт размеркавання грошай. Сродкі, на мой погляд, не павінны размяркоўвацца акадэмікамі, якія не нясуць адказнасці за іх эфектыўнае выкарыстанне. Трэба ўвесці нешта накшталт тэндэру. Акадэміі пры такой сістэме могуць выступаць толькі ў якасці дарадцаў, адказнасць нясе дырэктар інстытуту.

Да ўсяго, я параіў аб'яднаць некаторыя формы акадэмічных інстытутаў з ВНУшнымі, каб навукоўцы маглі часткова зарабляць чытаннем лекцый, а лектары змаглі працаваць на акадэмічнай базе. Але гэтага таксама адразу не зробіш.

***– Ці рэфармуюцца кіраўнічыя органы акадэміі?***

– Тое, што раней рабіла сама акадэмія на сваіх сходах, не давала вынікаў, гэта відавочна. Зараз Мясніковіч прапануе сабраць генеральную асамблею з удзелам навукоўцаў з ВНУ, з галіновых інстытутаў, створаных пры міністэрствах, пашырыць акадэмічнае кола і разбурыць кланы. Так што некаторыя яго пачынанні, на мой погляд, маюць разумны характар. Але чакаць хуткага выніку не выпадае.

Вядома, ува ўсім гэтым ёсць і драматычны момант. Увесь час скарачаецца фінансаванне, грошай паступае ўсё менш і менш, і таму, нягледзячы на станоўчыя зрухі, праблемы ў акадэміі не знікаюць.

Гутарыла **Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Будуецца сабор – руйнуецца помнік

У лютым пачалася доўгачаканая адбудова Свята-Успенскага сабору ў Віцебску. Паводле словаў загадчыка аддзелу па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры Віцебскага аблвыканкаму Уладзіміра Палаўцава, цяпер нарыхтоўваюцца матэрыялы для падмуркаў сабору.

Гэты помнік архітэктуры XVIII стагоддзя (былы уніяцкі храм, аддадзены пры царызме Рускай праваслаўнай царкве) быў знішчаны ў 1960-я гады. Некалькі гадоў таму было прынята рашэнне пра яго аднаўленне, і сёлета з гарадскога і абласнога бюджэтаў на гэта пойдзе 300 мільёнаў рублёў. Увогуле ж, на думку спецыялістаў аблвыканкаму, агульны кошт адбудовы сабору сягае сумы ў 10 мільёнаў даляраў. З гэтае прычыны віцебскія ўлады разлічваюць атрымаць фінансавую дапамогу ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (праўда, цяжка ўявіць, чаму бюджэт «Бацькаўшчыны» лічаць больш багатым, чым бюджэт Айчыны).

З таго часу як у 1998 годзе цяперашні патрыярх Рускай праваслаўнай царквы прыехаў з Масквы закласці сімвалічны камень у падмурак святыні, з зоны будоўлі вынеслі інжынерныя сеткі, адрылі катлаван і зрабілі сістэму дрэнажу. Выканаўцу асноўных будаўнічых працаў па ўзнаўленні сабору вызначылі праз тэндэр, у якім перамагло акцыянернае таварыства «Будтрэст № 9».

А тым часам на сценах суседняга будынку, які калісьці складаў адзіны з саборам ансамбль і ў якім жылі манахі-базыляне, а цяпер там Віцебскі станкаінструментальны тэхнікум, бачныя шчыліны. Намеснік дырэктара тэхнікуму Збігнеў Мілевіч і кіраўнік адпаведнага аддзелу аблвыканкаму Уладзімір Палаўцаў у адзін голас адмаўляюць наяўнасць гэтых шчылінаў. А паводле словаў выкладчыкаў тэхнікуму, дзіркі ў сценах трэцяга паверху павялічыся якраз у выніку падрыхтоўкі катлавану пад сабор. Увосень, калі ў катлаване вяліся працы, на трэцім паверсе вібрацыя была настолькі моцная, што выкладчыкі і навучэнцы баяліся там знаходзіцца.

Зразумела, што праваслаўнай царкве, якой улады аддалі пляцоўку, і будучы сабор, не шкада былога уніяцкага кляштару. Але ў выніку цяпер склалася недарэчная сітуацыя, калі коштам узнаўлення аднаго архітэктурнага помніку можа быць знішчаны суседні, які не адпавядае ўяўленням цяперашніх уладаў пра беларускую гісторыю.

Віцебскую грамадскасць трывожыць той факт, што будаўніцтва цяпер распачынаецца там, дзе ўжо некалькі гадоў запар падчас земляных працаў знаходзяць людскія парэшткі. Віцебскія ўлады не даюць тлумачэння гэтым знаходкам, замоўчваюцца страшныя знаходкі і вынікі працы адмысловай пошукавай роты Міністэрства абароны Беларусі. Пакуль што існуе некалькі не пацверджаных афіцыйна версіяў, згодна з якімі знойдзеныя на Успенцы парэшткі належаць альбо вязням Віцебскай турмы НКВД, расстраляным (паводле Юркі Віцьбіча) ці жыўцом спаленым (паводле Івана Касяка) напярэдадні ўваходу ў горад немцаў, альбо ахвярам турмы гестапа, якая знаходзілася ў гады акупацыі паблізу і ў якой сярод іншых ахвяраў значылася Вера Харужая. Па словах галоўнага спецыяліста па ахове гістарычна-культурных помнікаў упраўлення культуры аблвыканкаму Ніны Сулецкай, на Успенскай горцы знойдзены парэшткі ўжо каля тысячы чалавек, але грунтоўныя раскопкі на ўсёй тэрыторыі нават не плануюцца, а пракуратура не спяшаецца з высновамі па ўжо знойдзеных пахаваннях.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**



# Сексуальныя рабыні

*Мужчыны, якія паездзілі па свеце і бачылі шмат жанчын, упэўнены, што найпрыгажэйшыя жывуць у Беларусі. Але, на жаль, не самыя заможныя. Таму некаторыя нашы жанчыны імкнуцца за мяжу ў пошуках шчаслівай долі ці высокіх заробкаў. Замест гэтага часцей яны апынаюцца ў замежных публічных дамах. Праблема вярбоўкі беларускіх жанчын для сексуальнай эксплуатацыі ў замежжы была тэмай гутаркі карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ са старшым оперупаўнаважаным па асабліва важных справах упраўлення нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў МУС РБ падпалкоўнікам міліцыі Леанідам Абрамюком.*

### Чаго хоча жанчына

Прастытуцыя легалізавана пакуль што толькі ў Бельгіі, Галандыі, Латвіі, Нямеччыне. Ёсць нейкія заканадаўчыя паслабленні і ў іншых краінах Еўропы. Але яны не распаўсюджваюцца на замежных грамадзянак. На чужыне ў чалавека заўсёды меней правоў. Тым не менш сотні жанчын едуць у розныя краіны і свядома хочуць зарабляць там грошы прастытуцыяй. У наш час на дапамогу ім прыходзяць і апошнія дасягненні тэхнічнага прагрэсу – знайсці такую працу можна і праз інтэрнэт.

### Адкуль і куды

Жанчыны едуць за мяжу самастойна ці праз вярбоўку. Згодна з міліцэйскімі справаздачамі, едуць пераважна з Мінску, Гродна, Магілёва, Віцебску, Жодзіна, Кіраўску, Баранавіч. Злачынныя крымінальныя групоўкі, у склад якіх уваходзяць і грамадзяне нашай краіны, вязуць «жывы тавар» у Маскву, Гамбург, Франкфуртна-Одэры, Будапешт, Прагу, Варшаву, Каўнас, Гданьск, Вільнюс, Шчэцін, Сафію, Афіны, Тэль-Авіў. Каб надаць бізнесу сапраўдны размах, злачынныя групоўкі ўсталявалі сувязі з публічнымі дамамі еўрапейскіх, азіяцкіх і арабскіх краін.

### Прымусовая прастытуцыя

За абвесткамі, у якіх запрашаюць на працу за мяжу, часцяком хаваюцца міжнародныя сутэнёры. Але кожная жанчына ўпэўнена, што жахлівыя гісторыі могуць здарыцца з кім заўгодна, толькі не з ёй. Адбываецца ўсё па класічнай схеме: абвестка ў газеце, падпісанне кантракту, выезд за мяжу. Там забіраюць пашпарт і тлумачаць, чым прыйдзецца займацца на самой справе. Ні жаласлівыя просьбы, ні гучныя істэрыкі не дапамагаюць, шлях адзін – у бардэль. Звычайна самі жанчыны ўцячы не могуць. Дый які сэнс: няма ні дакументаў, ні грошай. Калі замежная паліцыя падчас рэйдаў па вясёлых установах знойдзе ахвяру секс-гандлю, то яе дэпартуюць з краіны. У рэдкіх выпадках пакараюць сутэнёры. Але для гэтага ў жанчыны павінна хапіць смеласці выступіць у судзе.

### Закон суровы

Заканадаўства нашай краіны прадугледжвае адказнасць для тых, хто вярбуе жанчын з мэтай сексуальнай эксплуатацыі, і тых, хто гандлюе людзьмі. Пакаранне за гэтыя злачынствы – ад 3 да 10 гадоў. На працягу 2001 году было ўзбуджана 7 справаў па фактах вярбоўкі жанчын і адна крымінальная справа па факце гандлю людзьмі. Супрацоўнікі ўпраўлення нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў упэўненыя, што такіх справаў павінна быць значна больш. Але прымусовая прастытуцыя – рэч вельмі закансніраваная. Калі грамадзянку Беларусі дэпартуюць з якой-небудзь краіны, нашы памежнікі паведамляюць пра гэта ва ўпраўленні ўнутраных справаў; міліцыянты пачынаюць высвятляць у размове з жанчынай, чым жа яна займалася ў замежжы, і амаль усе яны кажуць, што працавалі шваччкамі, нянькамі і г.д. Справа ў тым, што жанчыны вельмі запалоханы сутэнёрамі. Нават прыехаўшы дамоў, яны не адчуваюць сябе ў бяспецы. У 99 выпадках існуюць відэазапісы іх працы за мяжой – самы распаўсюджаны від шантажу. А колькі магло б быць крымінальных справаў, можна зразумець, калі ўзяць пад увагу, што на працягу 2001 году з розных замежных краін былі дэпартаваныя 123 жанчыны.

У верасні мінулага году падчас правядзення аператыўных мерапрыемстваў была затрымана жыхарка Жодзіна, грамадзянка М., якая шляхам падману завярбавала дзвюх жыхарак свайго ж гораду і вывезла іх у Польшчу для працы прастытуткамі. Нявыяўленая асоба балгарскай нацыянальнасці заплаціла ёй 400 даляраў за абедзвюх.

Ужо ў студзені гэтага году была ўзбуджана крымінальная справа супраць трох жыхароў Гомелю, якія з чэрвеня 2001 году па студзень гэтага году займаліся вярбоўкай і адпраўкай жанчын для працы прастытуткамі ў Ізраіль і Турцыю. За адпраўку ў Ізраіль атрымалі ўзнагароджанне ў памеры 15 000 даляраў, а ў Турцыю – толькі 800.

### Перспектывы бізнесу

Ахвярамі секс-гандлю звычайна робіцца жанчыны з невялікіх гарадоў, малазабяспечаныя і не надта адукаваныя. Нелегальная прастытуцыя – сфера дзейнасці крымінальных груповак. А паколькі на адной прастытутцы па прымусе «бос» зарабляе да 100 тысячаў даляраў у год, то ніхто па сваёй волі ад такога бізнесу адмаўляцца не будзе.

### Усе разам

У нашай краіне Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын разам з польскім фондам супраць гандлю жанчынамі *«La Strada»* праводзяць асветніцкія семінары, тэлефонныя кансультацыі для жанчын, якія плануюць выехаць за мяжу на працу ці нават выйсці замуж.

Нагадаем простыя правілы, выкананне якіх уратуе ад бяды:

– уладкоўвацца на працу за мяжу можна толькі праз тыя фірмы, якія маюць адпаведную ліцэнзію Камітэту па міграцыі. Трэба не толькі патрабаваць, каб гэты дакумент паказалі, але і патэлефанаваць у камітэт, каб упэўніцца ў сапраўднасці ліцэнзіі. (Нумар тэлефону давядацца самастойна, а не з «падказкі» фірмы);

– кантракт трэба падпісваць з працадаўцам, а не з пасярэднікам; ён абавязкова павінен быць на зразумелай для вас мове;

– пашпарт нават не вашая асабістая маёмасць, а дзяржаўная; ніколі і нікому нельга яго аддаваць, асабліва замежным працадаўцам;

– перад ад'ездам вы і вашыя блізкія павінны ведаць дакладны адрас вашага месца працы;

– неабходна зрабіць некалькі ксеракопій вашых дакументаў, адзін экземпляр пакінуць дома, а другі ўзяць з сабой;

– існуе некалькі відаў візаў, вам патрэбна працоўная; іншыя візы не даюць права на легальную працу. Размовы пра тое, што «на месцы перааформім» – хлусня. Працоўныя візы ў пасольствах звычайна атрымліваюць жанчыны, якія маюць мужа, дзяцей і маёмасць (кватэру, аўтамабіль).

Трэба заўсёды памятаць, што адной толькі прыгажосці недастаткова, каб стаць заможнымі.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

